


# Наша Слова




ЧЫТАЛІ? Стар.3.

ДЗЕ ГОНАР БЕЛАРУСАЎ? Стар.5.

Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 42 (306) 17 — 23 кастрычніка 1996 г. Кошт — 1000 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



**Нашу краіну наведаў** міністр Расіі па супрацоўніцтву з дзяржавамі-ўдзельніцамі СНД Амангельды Тулееў, які сустрэўся з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам. У час гутаркі было адзначана, што пакуль што вакол інтэграцыйных працэсаў паміж Беларуссю і Расіяй шмат размоў і мала справы. І не дзіўна, бо гаварыць умеюць усюды і пра інтэграцыю, і пра кааперацыю...

***У рэспубліканскім друку была інфармацыя пра тое, як Гарадзеншчына рыхтуецца да Усебеларускага народнага сходу,*** *у якой, у прыватнасці, сказана: "Ёсць меркаванне, што парламент павінен быць аднапалатным і палата сенатараў наогул не патрэбна. Сярод іншых прапаноў — запісаць у Канстытуцыі, што зямля не можа быць прадметам куплі-продажу, замяніць смяротнае пакаранне на пажыццёвае турэмнае зняволенне, абавязаць кожнага дзяржаўнага служачага валодаць беларускай мовай, зменшыць колькасць дэпутатаў і г.д. "Здаецца, на Усебеларускі народны сход выносяцца слушныя прапановы... Аднак ці будуць яны пачутыя?*

**Навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь і Праграма "Абнаўленне гуманітарнай адукацыі" Беларускага фонду Сораса накіравалі** ў шэсць школ нашай краіны бібліятэчкі — літаратуру аб правах дзіцяці, праблемах і асаблівасцях адукацыі і выхавання ў сучаснай школе, аб гістарычных асобах і культурных дзеячах Беларусі. Хочацца верыць, што гэтая акцыя будзе не адзінай.

***У гутарцы з карэспандэнтам "Звязды" народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін сказаў:*** *"Беларуская мова унікальная, столькі часу яе душылі, знішчалі, а яна жыве. Як трава з-пад асфальту, як трава з-пад бетонных пліт на ўзлётнай паласе прабіваецца. І я веру, што над нашай краінай — свая зорка, якая абараняе Беларусь, накіроўвае яе да незалежнасці, да дзяржаўнасці, да неад'емнасці ў Еўропе. У гэтым, відавочна, наш лёс. Нягледзячы на ўсе бядоты, мы, беларусы, народ трывалы". Але, як бы там ні было, хочацца, каб у нас, беларусаў, усё ж такі лёс быў лепшы, бо мы яго даўно заслужылі перад усімі людзьмі і перад Богам. І колькі нам можна трываць?*

**З 12 па 18 кастрычніка ў менскім кінатэатры "Перамога"** прайшоў тыдзень швейцарскага кіно. На суд гледачоў былі прадстаўлены восем мастацкіх, тры дакументальныя і сем анімацыйных кінастужак.

***Упершыню за апошнія гады павялічылася*** *цікавасць гарадзенскай моладзі да вучобы ў прафесійна-тэхнічных вучылішчах. Сёлета ў іх залічана звыш 6300 юнакоў і дзяўчат, хоць планавалася на некалькі соцень меней. А чаму б і не набыць спецыяльнасць у прафесійна-тэхнічным вучылішчы?*

**У сталіцы нашай краіны адбыўся Міжнародны конкурс музыкантаў-выканаўцаў "Фартэпіяна. Менск-96".** У ім узялі ўдзел больш за 100 маладых выканаўцаў з 14 краін свету.

***У навукова-даследчых інстытутах*** *колькасць навуковых работнікаў пасля 1991 года скарацілася прыблізна на 35 працэнтаў. Няўжо нашым інстытутам не патрэбны адукаваныя людзі?*

**У нашай краіне каля 620 тысяч чалавек** стаяць у чарзе на ўстаноўку тэлефона. Стаяць у чарзе для нас — гэта звычайная справа. Галоўнае — было б за чым стаяць!

## Каму карціць пусціць народу кроў?

Два дні, праведзеныя ў парламенце, не прынеслі Аляксандру Лукашэнку жаданых вынікаў. Вярхоўны Савет пакінуў у сіле сваю пастанову ад 6 верасня аб даце правядзення рэферэндуму — 24 лістапада. Намаганнямі дэпутацкай фракцыі "Згода" ў парламенце было сабрана 110 дэпутацкіх подпісаў пад зваротам да Прэзідэнта Лукашэнкі. У гэтым звароце падпісанты прапаноўвалі Прэзідэнту ўнесці касметычныя змены ў свой праект Канстытуцыі, у замен дэпутаты паабяцалі зняць з рэферэндуму свае пытанні і перанесці дату яго правядзення на 7 лістапада. А.Лукашэнка адразу ж ухапіўся за гэтую прапанову і правёў у Вярхоўным Савеце шмат часу, чаго раней за ім ніколі не заўважалася. У сваім выступе перад дэпутатамі Прэзідэнт паабяцаў зменшыць сваю квоту на прызначэнне сенатараў з трацціны да 8 чалавек і не патрабаваць пажыццёвага сенатарства для сябе. "З прапановамі 110 дэпутатаў я згодны на 99 працэнтаў",— заявіў А.Р.Лукашэнка. Далей ён казаў, што гэты крок стане добрым кампрамісам дзвюх галінаў улады на карысць беларускага народа, але яго прапановы больш нагадвалі не вельмі старанна прыхаваны ультыматум.

Вельмі жорстка скрытыкаваў прэзідэнцкі "кампраміс" Старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня, які сказаў, што намаганнямі Прэзідэнта краіна стаіць на мяжы прававога Чарнобыля і глыбокага расколу грамадства. Прэзідэнцкі праект Канстытуцыі нельга рэфармаваць, бо ён мае "гнілую сарцавіну", падкрэсліў Валерый Ціхіня. Рэакцыя А.Лукашэнкі на выступ спадара Ціхіні была надзвычай нервовай. Ад хвалявання, відаць, ён пачуў у прамове такія выразы, як "палітычны Чарнобыль" замест "прававога" і "экстрэмісцкая сітуацыя" замест "экстрэмальнай". Пасля такіх словаў, заявіў Прэзідэнт, звяртаючыся да Ціхіні, вы не маеце права займаць сваю пасаду.

Дэпутаты бальшынёй галасоў прынялі рашэнне правесці па прапанове таемнае галасаванне праз кабіны.

Як лічаць, подпісы пад зваротам у многіх парламентарыяў былі здабыты "згоднікамі" не зусім "добраахвотна". Відаць, А.Лукашэнка добра пра гэта ведаў, бо як толькі стала зразумела, што дэпутаты пойдуць галасаваць праз кабіны, Прэзідэнт заявіў, што адклікае ўсе свае прапановы і будзе звяртацца непасрэдна "да народа". Ён паабяцаў вынесці пытанне па даце рэферэндуму на "народны сход". Прадчуванне паразы ў выніку галасавання не падманула Аляксандра Рыгоравіча. Сам-насам з сабою многія дэпутаты былі больш смелымі, хаця кіраўнік фракцыі "Згода" Каналлёў і спрабаваў пракантраляваць, як галасавалі дэпутаты ад яго фракцыі. Адразу пасля абнародавання вынікаў галасавання (84 — за прапанову, 88 — супраць) заявіў аб сваёй адстаўцы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Юрый Малумаў. "Прэзідэнцкія" дэпутаты заявілі, што не спыняць спробаў легітымізаваць зварот тых 110 чалавек. Настойлівасць, з якой Юрый Малумаў дамагаўся адстаўкі, здзіўляе толькі на першы погляд. Не выключана, што ў выпадку прызначэння даты рэферэндуму на "сходы" фракцыя "Згода" пакіне парламент і такім чынам пасрабуе пазбавіць Вярхоўны Савет кворуму. Прыём вядомы з нядаўняй расійскай гісторыі, калі ў 1993 годзе ельцынцы пакінулі ВС Расіі. Магчымы і больш жорсткі варыянт расправы над парламентам і апазіцыяй. Той жа Малумаў заявіў, што 19 кастрычніка на вуліцах Менска вельмі верагоднае праліццё крыві. І калі ўзгадаць вясеннія падзеі, то можна не сумнявацца, што гэтыя людзі для захавання сваёй улады пойдуць і на злачынства.

**А.НЕВЯРОЎСКІ.**

*Жыццё ТБМ*

## Сумесная нарада

У менскай сядзібе ТБМ адбылося пасяджэнне Канцылярыі Таварыства беларускай школы, у якім удзельнічалі і актывісты ТБМ. Таварыства беларускай школы прадстаўлялі яго прэзідэнт Генадзь Пятроўскі, віцэ-прэзідэнты Алесь Лозка і Аляксандр Сядзяка, прадстаўнік сталічнай суполкі арганізацыі Валеры Палсцюк. З боку ТБМ прысутнічалі сябры Сакратарыята Людміла Дзяцэвіч, Зміцер Санько, выкладчыца Радыётэхнічнага універсітэта Тамара Сухая, а таксама сябра Менскай гарадской Рады ТБМ Мікалай Савіцкі.

Канцылярыя вызначыла абавязкі кіраўнікоў ТБШ. Адказным за арганізацыйную і фінансавую дзейнасць быў прызначаны А.Сядзяка. Вядзенне асветніцкіх і выдавецкіх праграм было даручана А.Лозку.

Далей абмяркоўваўся план бліжэйшых акцыяў ТБШ. Кіраўнікамі арганізацыі было вырашана супольна з ТБМ правесці ў лістападзе "круглы стол" з назваю "Перспектывы беларускага школьніцтва". Адной з мэтаў "круглага стала" мае быць абмеркаванне дзяржаўнай канцэпцыі рэформы агульнаадукацыйнай школы. Да ўдзелу ў "круглым стале" вырашана запрасіць і прадстаўнікоў Міністэрства адукацыі.

Тамарай Сухой было прапанавана прыняць сумесны зварот ТБМ і ТБШ у абарону беларускамоўнай вышэйшай адукацыі і распачаць масавую акцыю збору подпісаў пад гэтым зваротам.

Удзельнікамі нарады было вырашана напярэдадні правядзення "круглага стала" правесці дадатковую сустрэчу дзеля выпрацоўкі канцэпцыі "Белай кнігі" (магчыма, яна зменіць сваю назву на "Шэрую") і вызначэння складу яе рэдакцыйнай калегіі.

Выклікае подзіў зацікаўленасць удзельнікаў нарады праблемамі толькі вышэйшай школы. Верагодна, яна вынікла з прафесійных патрэбаў часткі іх — выкладчыкаў ВНУ. Прафесійная прыналежнасць актывістаў ТБМ і ТБШ адлюстравалася і на змесце прапанаванага сп.Сухой падпіснога ліста, у якім выкладзены патрабаванні датычаць выключна вышэйшай школы. Акрамя таго, у яго было ўключанае патрабаванне "адкрыць Беларускі нацыянальны універсітэт" без тлумачэння, чым не задавальняюць ініцыятараў звароту ўсе іншыя універсітэты.

Здзіўляе і спосаб збору матэрыялаў для "Белай (шэрай?) кнігі". Гэтая справа з'яўляецца часткаю праграмы грамадскага курыравання школаў, прынятай ТБМ яшчэ ўвесну (гл. "Наша слова", № 16, 1996). Нягледзячы на тое, што ТБМ і ТБШ маюць суполкі па ўсёй краіне, звесткі аб стане беларускамоўнага школьніцтва збіраюцца дастаткова поўна чамусьці толькі ў сталіцы. Да таго ж інфармацыю для ТБМ і ТБШ прызначаныя імі куратары не здабываюць самі. Яе крыніца — раённыя аддзелы адукацыі — структуры той самай дзяржавы, якая інспіруе закрыццё беларускіх школаў. Таму актуальным робіцца пытанне: ці не будуць абедзве недзяржаўныя арганізацыі мецъ тое ўяўленне аб стане рэчаў, якое стварае дзяржава?

**У.П.**

*Мікалай КРУКОЎСКІ,*
*доктар філасофскіх навук, прафесар*

## Нацыянальная самасвядомасць і мова



"У пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было Слова" — так распачынае сваё Евангеліе апостал Іаан. У старагрэцкай мове, на якой напісана Евангелле, "Слова" гучыць як "Логас", што азначала адначасова і Думку, і Мысль, і тое можа разглядацца як адно з старажытнейшых сведчанняў цеснай узаемасувязі паміж словам і паняццем, мовай і самасвядомасцю. У лінгвістыцы псіхалогіі і філасофіі гэта ўспрымаецца сёння як труізм, і таму няма нічога дзіўнага, што нават Маркс акрэсліваў мову як практычную, матэрыялізаваную свядомасць, а Хайдэгер, дык і ўвогуле называў яе Домам быцця. Узаемасувязь гэтая асабліва выразна выступае ў працэсе індывідуальнага мыслення, якое часам проста вызначаецца, як унутранае маўленне, а, напрыклад, у псіхіятрыі мова і маўленне індывіда з'яўляецца адным з важнейшых сродкаў даследавання і лячэння хворай свядомасці. Характэрна пры гэтым, што маўленне выступае тут і ў яго узаемасувязі з фізічнымі дзеяннямі і рухамі цела, г.зн. паводзінамі індывіда ўвогуле, узаемасувязі, якая ў выпадку псіхічнага захворвання можа парушацца і станавіцца, як кажуць псіхіятры, неадэкватнай.

Гэтак жа сама цесна звязана мова і са свядомасцю калектыўнага суб'екта — народа, нацыі. Тут, аднак, тая сувязь выступае ў яшчэ больш складанай форме, чым на ўзроўні свядомасці індывідуальнай. Ужо сама калектыўная свядомасць як свядомасць народа, яго, так бы мовіць, дух, уяўляе сабою самастойную і вельмі не простую праблему. Традыцыйна марксісцкае разуменне свядомасці як чагосьці другаснага ў адносінах да матэрыяльнага быцця на ўзроўні як індывіда, так і грамадства моцна спрашчала гэтую праблему, прапануючы выразна аднабаковае яе рашэнне. У такім аспекце адзінай рэальнасцю, зусім як у сярэднявечных наміналістаў, аказвалася індывідуальная свядомасць, у сваю чаргу прынцыпова вызначаемая цялесным, матэрыяльным быццём індывіда. Тое, што асоба, напрыклад, акрэслівалася марксізмам як сукупнасць грамад-

(Заканчэнне на с.3.)

# Статут Таварыства беларускай школы

## 1. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

1.1. Таварыства беларускай школы (далей — ТБШ) — добраахвотная грамадская культурна-асветная арганізацыя, якая аб'ядноўвае грамадзян з мэтай садзейнічання фарміраванню нацыянальнай адукацыйнай сістэмы ўсіх узроўняў (ад дашкольных да вышэйшых навучальных і выхаваўчых установаў), захаванню і развіццю беларускай культуры, традыцый і духоўнасці.

1.2. ТБШ дзейнічае ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, законамі Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях", "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", іншымі палажэннямі дзеючага заканадаўства і гэтым статутам.

1.3. Таварыства карыстаецца ўсімі правамі грамадскіх аб'яднанняў, вызначанымі заканадаўствам.

1.4. Таварыства з'яўляецца духоўным пераемнікам аднайменнай культурна-асветнай арганізацыі Заходняй Беларусі, якая была заснавана ў 1921 г. Б.Тарашкевічам і яго паплечнікамі.

1.5. ТБШ дзейнічае на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

1.6. Таварыства ажыццяўляе сваю дзейнасць на прынцыпах дэмакратызму, плюралізму, самакіравання і галоснасці.

1.7. ТБШ мае сваю сімволіку, узоры якой зацвярджае Асамблея Таварыства.

1.8. ТБШ з'яўляецца юрыдычнай асобай, мае самастойны бухгалтарскі баланс і рахунак, пячатку, штампы вызначанага ўзору з адлюстраваннем сімволікі і назвы арганізацыі, разліковыя рахункі ў банкаўскіх установах (у тым ліку валютныя); ад свайго імя выступае ва ўзаемаадносінах з юрыдычнымі і фінансавымі асобамі. Юрыдычнымі асобамі з'яўляюцца таксама арганізацыйныя структуры ТБШ.

1.9. Таварыства паведамляе аб сваёй рэгістрацыі, рэарганізацыі, ліквідацыі ў трохмесячны тэрмін у перыядычныя выданні.

1.10. Юрыдычны адрас: 220085 г.Менск, пр. Ракасоўскага, 93. Тэл. 248-32-02, 232-47-01.

## 2. МЭТЫ, ЗАДАЧЫ І МЕТАДЫ ДЗЕЙНАСЦІ

2.1. Асноўнымі мэтамі ТБШ з'яўляюцца: садзейнічанне стварэнню сучаснай сістэмы нацыянальнай асветы і адукацыі, спрыянне бесперапыннай адукацыі на беларускай мове ад дзіцячага садка да ВНУ ўключна; сацыяльна-прававая абарона дашкольнікаў, школьнікаў, студэнтаў і педагогаў беларускіх навучальна-выхаваўчых установаў; культурна-асветная праца сярод дзяцей, моладзі і дарослых дзеля фарміравання ў іх нацыянальнай свядомасці і засваення імі агульначалавечых каштоўнасцяў.

2.2. ТБШ праводзіць паслядоўную працу з бацькамі, дзецьмі, настаўнікамі, дырэктарамі школ, супрацоўнікамі аддзелаў адукацыі і культуры, накіраваную на росквіт нацыянальнай школы, захаванне існуючых і адкрыццё новых класаў і школ з беларускай мовай навучання на аснове нацыянальных праграм і падручнікаў. ТБШ спрыяе паслядоўнаму пераводу расійскамоўных школ (класаў) на беларускую мову навучання, пашырэнню ў змесце навучання ўсіх школ краіны беларускага нацыянальна-культурнага кампанента.

2.3. Доўгатэрміновая задача Таварыства — спрыяць распрацоўцы і рэалізацыі канцэпцыі беларускай нацыянальнай школы ў рэчышчы комплекснай адукацыйнай праграмы "Еўрапейская школа XXI стагоддзя" праз выкананне сістэмы прыярытэтных праектаў.

2.4. Таварыства шчыльна супрацоўнічае з дзяржаўнымі, грамадскімі і прыватнымі навучальнымі ўстановамі Рэспублікі Беларусь.

2.5. ТБШ стварае педагагічныя лабараторыі, даследчыя і эксперыментальныя асяродкі, часовыя творчыя калектывы з мэтай абнаўлення адукацыйнай практыкі, напісання новага пакалення падручнікаў, дапаможнікаў, метадычных распрацовак на аснове нацыянальных каштоўнасцяў і традыцый ды сусветных дасягненняў.

2.6. Таварыства садзейнічае павышэнню кваліфікацыі, падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы педагагічных кадраў, займаецца лекцыйнай і асветнай дзейнасцю сярод насельніцтва.

2.7. ТБШ удзельнічае ў распрацоўцы навучальных праграм, стварэнні і рэцэнзаванні падручнікаў, дапаможнікаў і іншай навучальнай, выхаваўчай і метадычнай літаратуры.

### Метады дзейнасці

2.8. Таварыства прапагандуе сістэмны падыход да арганізацыі школьнага навучання, дамагаецца ўвядзення ў педагагічную практыку прагрэсіўных формаў і метадаў выкладання дысцыплін.

2.9. Абапіраючыся на найноўшыя дасягненні айчынных і замежных спецыялістаў, Таварыства выпрацоўвае эфектыўныя тэхналогіі навучання; наладжвае выкарыстанне кампутарных і інфармацыйных сістэм з усім неабходным праграмным забеспячэннем у навучальным працэсе.

2.10. ТБШ усталёўвае і падтрымлівае сталыя дачыненні з адукацыйнымі цэнтрамі, камісіямі і асацыяцыямі еўрапейскіх дзяржаў; ладзіць міжнародныя, рэгіянальныя і мясцовыя канферэнцыі, сімпозіумы, выставы, фестывалі, конкурсы, сацыялагічныя і іншыя даследаванні; праводзіць абмен спецыялістамі, вучнямі і настаўнікамі. Уступае ў міжнародныя адукацыйныя арганізацыі. Мае прадстаўніцтвы за межамі Рэспублікі Беларусь.

2.11. У сваёй дзейнасці ТБШ арыентуецца на дыялог паміж прыхільнікамі розных поглядаў, падтрымлівае альтэрнатыўнасць, адметнасць, дух спаборніцтва.

## 3. СТРУКТУРА ТБШ, ВЫБАРНЫЯ ОРГАНЫ І ІХ ФУНКЦЫІ

3.1. Найвышэйшым органам ТБШ з'яўляецца Асамблея, якая склікаецца адзін раз на год.

Асамблея прымае Статут і іншыя дакументы, уносіць у Статут змены і дапаўненні, выбірае Назіральную Раду, Канцылярыю, канцлера, прэзідэнта ТБШ, віцэ-прэзідэнтаў, Рэвізійную камісію і яе кіраўніка, заслухоўвае і зацвярджае справаздачу Канцылярыі і Рэвізійнай камісіі, вырашае іншыя пытанні.

Нечарговая Асамблея склікаецца Канцылярыяй, ці з патрабавання не менш чым адной трэці рэгіянальных арганізацый ТБШ, або Рэвізійнай камісіяй.

Час і месца Асамблеі, нормы прадстаўніцтва, парадак абрання дэлегатаў вызначае Канцылярыя.

Асамблея правамоцна прымаць рашэнні пры наяўнасці больш як 1/2 абраных дэлегатаў. Рашэнне лічыцца правамоцным, калі за яго прагаласавала большасць прысутных дэлегатаў. Пасяджэнні Асамблеі праводзіць прэзідэнт або адзін з яго намеснікаў.

3.2. Кіраўнічым органам ТБШ паміж Асамблеямі з'яўляецца Канцылярыя, якая збіраецца не радзей, як адзін раз на месяц. Канцылярыя вырашае статутныя задачы ТБШ, зацвярджае каардынатараў праектаў, стварае камісіі і іншыя рабочыя органы, пры неабходнасці ўносіць змены і дапаўненні ў Статут, прымае сімволіку, пячаткі, формы бланкаў, кіруе паўсядзённай працай па вырашэнні задач Таварыства. Пасяджэнні Канцылярыі праводзіць канцлер пры наяўнасці больш як 1/2 яе сяброў. Рашэнне лічыцца прынятым, калі за яго прагаласавала 2/3 прысутных сяброў.

3.3. Аснова ТБШ — першасныя суполкі і рэгіянальныя арганізацыі (раённыя, гарадскія). Першасныя суполкі ствараюцца паводле тэрытарыяльнага і вытворчага прынцыпаў пры наяўнасці не менш чым трох сяброў Таварыства. Рэгіянальныя арганізацыі ствараюцца адпаведнымі ўстаноўчымі канферэнцыямі дэлегатаў першасных суполак (не менш трох першасных).

3.4. Канцылярыя ТБШ можа рэгістраваць бацькоўскія камітэты школ і класаў, гурткі беларусазнаўства як першасныя суполкі Таварыства, калі выкананы ўмовы іх стварэння, прадугледжаныя п.3.3.

3.5. Рэгіянальныя арганізацыі ТБШ рэгіструюцца ў Канцылярыі Таварыства згодна пададзеных пратаколаў устаноўчых канферэнцый.

3.6. Назіральная Рада — дарадча-аналітычны орган ТБШ, сябры якой абіраюцца Асамблеяй з ліку вядомых грамадскіх і дзяржаўных дзеячаў, навукоўцаў і педагогаў. Пры неабходнасці Назіральная Рада прапануе адпаведнаму органу змены і дапаўненні ў Статут ТБШ, дае раду па важнейшых пытаннях дзейнасці Таварыства. Назіральная Рада склікаецца па меры неабходнасці. Кіруе яе дзейнасцю прэзідэнт ТБШ.

3.7. Прэзідэнт Таварыства валодае паўнамоцтвамі кіраўніка ТБШ як юрыдычнай асобы. Ён можа перадаць частку сваіх паўнамоцтваў на вядзенне гаспадарча-фінансавай і іншай статутнай дзейнасці аднаму са сваіх намеснікаў.

3.8. Рэвізійная камісія — кантрольны орган Таварыства, які збіраецца не радзей аднаго разу на год:

- кантралюе дзейнасць выбарных органаў і арганізацыйных структур ТБШ;
- правярае вядзенне справаводства, выкананне Статута Таварыства;
- ажыццяўляе сваю дзейнасць у адпаведнасці з заканадаўствам.

Пасяджэнні Рэвізійнай камісіі праводзяцца па меры неабходнасці, але не радзей, чым раз на паўгода.

3.9. Тэрмін паўнамоцтваў выбарных органаў — тры гады.

3.10. Рашэнні калегіяльных органаў афармляюцца пратаколамі.

3.11. Справаводства вядзецца ва ўстаноўленым законам парадку. Дакументацыя, што вызначана законам, здаецца ў адпаведныя дзяржаўныя ўстановы.

## 4. СЯБРЫ ТБШ, ІХ ПРАВЫ І АБАВЯЗКІ

4.1. Сябрам ТБШ можа быць кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь старэйшы за 16 гадоў, а таксама іншыя грамадзяне і асобы без грамадзянства з ліку навукоўцаў, педагогаў, навучэнцаў, студэнтаў, іх бацькоў, што маюць дачыненне да навучальна-выхаваўчых установаў усіх тыпаў ад дашкольных да вышэйшых як з беларускамоўным, так і з іншамоўным навучаннем, хто прызнае мэты ТБШ, спрыяе іх ажыццяўленню.

4.2. Прыём сяброў у склад Таварыства, а таксама выхад з яго ажыццяўляецца першаснымі суполкамі, а пры іх адсутнасці — адпаведнымі кіраўнічымі органамі на падставе пісьмовай або вуснай заявы.

4.3. Сябры ТБШ маюць права выбіраць і быць абранымі ва ўсе органы Таварыства, браць удзел у пасяджэннях выбарных органаў з дарадчым голасам, выйсці з ТБШ па асабістым жаданні.

4.4. Сябры ТБШ абавязаны спрыяць дасягненню мэтаў Таварыства, вызначаных гэтым Статутам, своечасова ўносіць сяброўскія складкі, выконваць рашэнні выбарных органаў.

4.5. Сябры ТБШ абавязаны быць прыкладам ва ўжыванні беларускай мовы ў грамадскіх, службовых і бытавых (сямейных) справах.

## 5. МАТЭРЫЯЛЬНА-ФІНАНСАВАЯ АСНОВА ДЗЕЙНАСЦІ ТБШ

5.1. ТБШ мае свае сродкі, якія фармуюцца з дабрачынных ахвяраванняў прыватных асоб, установаў і прадпрыемстваў; з сяброўскіх складак; з паступленняў ад выдавецкай і іншых відаў дзейнасці, не забароненых заканадаўствам.

## 6. СПЫНЕННЕ ДЗЕЙНАСЦІ ТБШ

6.1. Спыненне дзейнасці ТБШ ажыццяўляецца шляхам рэарганізацыі ці ліквідацыі па рашэнні не менш як 2/3 прысутных дэлегатаў Асамблеі; Таварыства можа быць ліквідавана па рашэнні судовых органаў Рэспублікі Беларусь у парадку, прадугледжаным заканадаўствам.

6.2. Рэарганізацыя ТБШ адбываецца згодна з рашэннем Асамблеі, маёмасць і грашовыя сродкі пры гэтым пераходзяць да правапераемніка.

6.3. Ліквідацыя ТБШ ажыццяўляецца згодна з пастановай Асамблеі або на падставе рашэння судовага органа Рэспублікі Беларусь, якое ўступіла ў законную сілу.

6.4. Ліквідацыя ТБШ праводзіцца ліквідацыйнай камісіяй, створанай па рашэнні Асамблеі або суда. Маёмасць і грашовыя сродкі ТБШ пасля пагашэння абавязковых плацяжоў і крэдытарскай запазычанасці накіроўваюцца на ажыццяўленне мэтаў, прадугледжаных Статутам.

**Статут прыняты Устаноўчай Асамблеяй Таварыства беларускай школы 22 сакавіка 1996 г.**

*Таварыства беларускай школы зарэгістравана Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь 30 жніўня 1996 г. (пасведчанне № 0760).*

**Адрас канцылярыі ТБШ**: 220085, Менск, пр.Ракасоўскага, 93.

**Кантактныя тэлефоны ў Менску:** (017) 248-32-02 — Аляксандр Сядзяка, віцэ-прэзідэнт ТБШ, 232-47-01 — Алесь Лозка, віцэ-прэзідэнт ТБШ.

*Нарады кіраўніцтва ТБШ адбываюцца што трэцяе пятніцы кожнага месяца ў менскай сядзібе ТБМ (вул. Румянцава,13, тэл. 233-25-11).*

*Чыталі?*

# Моўная гармонія: пра што спрачацца?

У жнівеньскім нумары расійскамоўнага часопіса "Нёман" маю ўвагу прыцягнуў артыкул кандыдата філалагічных навук, моваўнаўцы і грамадскага дзеяча Сяргея Запрудскага "Моўная гармонія: беларускі варыянт". Падумалася: нешта не вяжацца гармонія з Беларуссяй, але ж ёсць нейкі варыянт. Мы ведаем спадара Запрудскага як сур'ёзнага даследніка, значыць, назва артыкула не выпадковая. Ён мяне заінтрыгаваў, і захацелася падзяліцца ўражаннямі ад яго з нашымі чытачамі.

"З прыняццем у 1990 годзе Вярхоўным Саветам БССР спецыяльнага закона,— піша ва ўступе аўтар,— імкненне вярнуць да паўнацэннага жыцця мову карэннага насельніцтва Беларусі стала адчувальным фактарам і ў дзяржаўным жыцці нашай рэспублікі." Здавалася б, праблема вырашана — хоць бы ў прававых адносінах: няма пра што спрачацца! Аднак, гаворыць ён далей, "з той пары на старонках газет і часопісаў, на вуліцах і ў сценах парламента ідзе несупынная дыскусія пра абгрунтаванасць прынятага дэкрэта, аб магчымасці аднаўлення беларускай мовы, пра месца ў жыцці грамадства іншых моў і г.д.". Да чаго тая дыскусія давяла, мы ведаем.

Нездарма ўстрывожыўся спадар Запрудскі, я яго разумею. Моўная праблема ўзнікла не сёння і не толькі для беларусаў: для многіх этнасаў за гісторыю чалавецтва яна была вынікам трагічнага зыходу нацыяў у нябыт. Аўтар падае гэту праблему ў глабальным маштабе і ў гістарычнай перспектыве, каб высветліць — ці ёсць шанц у беларусаў? Загалоўкі раздзелаў гавораць самі пра сябе: "Быць самім сабой", "Двухмоўе", "У адпаведнасці з сусветным вопытам", "На балі ў дылетантаў"... Што значыць быць самім сабой? "Ва ўмовах, калі дзяржава не садзейнічае развіццю тае або іншае мовы, не падтрымлівае тае або іншае нацыянальнае культуры, перспектывы іх захавання вельмі праблематычныя..." У Беларусі, калі моўная сітуацыя стабілізавалася і пайшоў натуральны працэс адраджэння, людзі, надзеленыя дзяржаўнай уладай, стварылі згубную для беларускай мовы абстаноўку, і быць самімі сабой на радзіме беларусам сапраўды стала праблематычна.

Аўтар усебакова аналізуе вытокі беларуска-расійскага білінгвізму, які ў нас фактычна насаджаўся партыйна-савецкай сістэмай, паслядоўна выцясняючы беларускую мову з грамадскага ўжытку. Ён звяртаецца да вопыту замежных краін у справе вырашэння моўных праблем, у прыватнасці, Швейцарыі. "Падобна, што "швейцарскую мадэль" нам раз-пораз прапануюць... з-за няведання,— піша С.Запрудскі.— Гэта адбываецца таму, што ў апошнія гады ў прафесійных спрэчках у нас занадта часта сталі прымаць удзел непрафесіяналы. Дамінантай у грамадскім развіцці ў гэты час была барацьба за дэмакратыю — і, змагаючыся за яе, за права кожнага мець і выказваць сваю думку, мы самі не заўважылі, як апынуліся на балі ў дылетантаў". Аўтар не галаслоўны — ён прыводзіць шматлікія прыклады публікацый з нашых цэнтральных газет, у якіх папулярызаваліся моваўнаўчыя практыкаванні, напрыклад, віцебскай пенсіянеркі, інжынера па адукацыі Музы Іванаўны Тарасевіч. "Але чаму, мякка кажучы, не вельмі навуковыя артыкулы Музы Тарасевіч неаднаразова атрымлівалі "зялёнае святло" ў многіх дзяржаўных выданнях? — пытаецца аўтар.— Няўжо перад навукай і сродкамі масавай інфармацыі стаяць проста супрацьлеглыя задачы: навука заклікана адкрываць ісціну, а газеты існуюць для таго, каб яе... закрываць?"

Цікавы экскурс спадара Запрудскага ў тэорыю і гісторыю пытання аб выміранні моваў са спасылкай на працы сусветна вядомых лінгвістаў. Так, прафесар Аўстралійскага універсітэта, даследнік гэтай праблемы, Стывен Вурм, сцвярджае ў сваёй рабоце "Прычыны і абставіны смерці моваў", што мовы гінуць па дзвюх галоўных прычынах. Першая — гэта гібель усіх носьбітаў мовы, колькасна невялікіх,— у выніку войн, катастроф, генацыдаў і г.д. Другі комплекс прычын, паводле Стывена Вурма, звязаны з "экалогіяй" той ці іншай мовы, калі ў выніку цесных кантактаў паміж мовамі ўзнікае канфлікт, у якім адзін з бакоў аказваецца больш моцным і агрэсіўным. Вось вам дакладная характарыстыка моўнай сітуацыі на Беларусі: больш моцнай расійскай мове і яе агрэсіўным носьбітам дзякуючы дзеячам вышэйшага рангу, якія ўвасабляюць дзяржаўную ўладу, створаны ўмовы найбольшага спрыяння, а беларуская мова зноў заганяецца ў кут.

"Занадта многа бед у нашым жыцці адбываецца з-за нашай неадукаванасці,— заканчвае свой глыбокі, аналітычны артыкул спадар Запрудскі,— але больш за ўсё пагібельныя дылетанты, якія займаюць высокія дзяржаўныя пасады. Між іншым, вядома, што дыктатура непрафесіяналаў не можа доўжыцца надта доўга, яна — не вечная. Вось і сённяшняе ўсеўладдзе дылетантаў у моўнай палітыцы, якое нямала садзейнічала пераводу мовы беларускага народа ў ранг падвергнутых пагрозе знікнення, несумненна, у бліжэйшай будучыні будзе пахіснута. Такое патрабаванне часу".

А пакуль патрыётам Бацькаўшчыны даводзіцца ўпарта змагацца з нігілістамі і русіфікатарамі.

**Уладзімір АНІСКОВІЧ.**

З рэдакцыйнай пошты

## Будзем жыць па праўдзе!

Мы, студэнты трэцяга курса Мазырскага дзяржаўнага педінстытута, разам са сваім куратарам, дацэнтам Л.А.Піскун, перш за ўсё хочам выказаць удзячнасць народнаму паэту Беларусі, старшыні Цэнтральнай Рады ТБМ Нілу Сымонавічу Гілевічу за яго ліст-зварот да студэнцкай і вучнёўскай моладзі Беларусі "Вучыцца праўдзе і нацыянальнай годнасці", змешчаны ў газеце "Наша слова" № 35 за 29 жніўня г.г. Мы чыталі яго і абмяркоўвалі ў кожнай студэнцкай групе на факультэце педагогікі і методыкі пачатковага навучання і цалкам згодныя з Вашымі думкамі і меркаваннямі, шаноўны Ніл Сымонавіч! Ваш непакой вельмі блізкі студэнцкай моладзі, бо мы адчуваем, што антыбеларускія сілы ў працэсе нацыянальнага адраджэння нанеслі нам удар. Мы абураны той кампаніяй, якая пачалася ў гэтым навучальным годзе за пераход беларускамоўных школ на расійскамоўныя. Мы перакананыя ў тым, што беларуская мова павінна быць адзінай дзяржаўнай моваю ў Рэспубліцы Беларусь, як перакананыя ў тым, што так яно і будзе, бо, усведамляючы свой грамадзянскі абавязак, мы будзем наглядаць гэты шчаслівы час.

У нашай навучальнай установе (Мазырскі дзяржаўны педагагічны інстытут) многімі выкладчыкамі выконваецца Закон аб мовах і палажэнні Канстытуцыі РБ, паводле якой беларуская мова ў нас з'яўляецца дзяржаўнай. У прыватнасці, на беларускай мове выкладаюцца матэматыка (Р.А.Кірбай, В.М.Вількс), філасофія (Кірылаў), замежная дзіцячая літаратура, дзіцячая літаратура расійская і беларуская дзіцячая літаратура (Піскун Л.А.) і інш.

Вывучаючы праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які прапануецца на рэферэндум, у артыкуле 17 першага раздзела чытаем: "Дзяржаўнай моваю ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца беларуская мова". ("Русский язык имеет равный статус с белорусским").

Апошняе трэба закрэсліць. Інакш атрымліваецца, як бачна, з аднаго боку, Канстытуцыя (праект) бярэ пад абарону беларускую мову як дзяржаўную ў нашай краіне, а з другога — дае "дубінку" ворагам беларушчыны...

Мы не згодныя з такой фармулёўкай артыкула 17. Трэба пакінуць: "Дзяржаўнай моваю ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца беларуская мова".

У артыкул 19 неабходна ўнесці наступныя дапаўненні (папраўкі). Чытаем: сімваламі Рэспублікі Беларусь як суверэннай дзяржавы з'яўляюцца яе Дзяржаўны сцяг (трэба дадаць: бел-чырвона-белы), Дзяржаўны герб (трэба дадаць: "Пагоня") і Дзяржаўны гімн (трэба дадаць: на тэкст і мелодыю якога аб'явіць конкурс).

Наогул жа, мы перакананыя: гэты рэферэндум, які так паспешліва рыхтуецца і аднабока масіравана прапагандуецца, разлічаны толькі на маладасведчаных у пытаннях палітыкі і права людзей. У выпадку, калі большыня выбаршчыкаў прагаласуе за пастаўленыя пытанні, гэта будзе на руку антыдэмакратычным сілам дзеля ўсталявання ў нашай краіне дыктатарскага рэжыму. Свядомым грамадзянам Беларусі ў гэты час ніякі рэферэндум не патрэбны!

**Студэнты III курса Мазырскага дзяржаўнага педінстытута, куратар — дацэнт Людміла ПІСКУН.**

# Нацыянальная самасвядомасць і мова

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

скіх адносін, мала дапамагала справе, бо і самі гэтыя адносіны разумеліся як матэрыяльныя, дзяржаўна-прымусовыя ў канчатковым выніку нормы. Сама ж свядомасць народа трактавалася як нешта ўяўнае і нерэальнае, тым болей, што менавіта як дух народа яна часам і кампраметавалася, як тое мела месца ў некаторых нямецкіх вучоных, якія пайшлі ў свой час на супрацоўніцтва з адкрытым расізмам і нацыяналізмам фашысцкага толку. Хаця і ў гэтым сваім тэрміналагічным азначэнні мы сустракаем тое паняцце, напрыклад, у такога вялікага немца, як Вільгельм фон Гумбальт, які спецыяльна ставіў пытанне аб духу народа і аб цесных суадносінах яго характару з характарам мовы, грунтуючы ўсю гэтую праблему на сістэме агульначалавечых духоўных каштоўнасцяў.

Тое ж самае можна было б сказаць і пра мову. Марксісцкая трактоўка яе як **матэрыялізаванай** свядомасці вяла да таго, што пры вывучэнні яе ўся ўвага сканцэнтроўвалася выключна на яе знешняй, матэрыяльнай форме. Аднак, яе духоўны змест, г.зн. семантыка, сэнс заставаліся пры гэтым убаку. Прычым гэта характэрна не толькі для марксісцкага, але і для ўсяго еўрапейскага мовазнаўства, што абумовілася шпенглераўскім пераходам заходнееўрапейскай культуры ў стан цывілізацыі, які сам Шпенглер характарызаваў, як ператварэнне арганізма ў механізм, а вядомы французскі філосаф-традыцыяналіст Р.Генон — нават як своеасаблівае "зацвярдзенне" культуры, што пачынае ўжо хіліцца да ўпадку.

У чыста філасофскім плане "перакос" у бок матэрыяльнага за кошт духоўнасці з'яўляецца сам, так бы мовіць, адхіленнем ад ісціны. Ісціна ж — толькі ў адзінстве таго і другога, у адзінстве матэрыі і духу, формы і зместу, тэксту і яго значэння. І на Захадзе зараз выразна адчуваецца менавіта такое разуменне ісціны, што можна добра бачыць на прыкладзе філасофіі неатамістаў, Тэйяра дэ Шардэна і таго ж самага Р.Генона. Неатамізм, зрэшты, як прадракальнік духоўнага адраджэння заходняй культуры, сам узнік яшчэ ў сямідзесятых гадах мінулага стагоддзя ў выглядзе рэакцыі на распачатую тады матэрыялізацыю жыцця і на ўзнікненне марксізму. Нешта падобнае адбылося значна пазней у вельмі паскоранай і абвостранай форме і ў Расіі, калі як рэакцыя на расійскую форму марксізму — бальшавізм — амаль імгненна з'явілася на гістарычнай арэне расійская рэлігійная філасофія.

У плане цікавячай тут нас праблемы суадносін паміж моваю і свядомасцю народа, на больш канкрэтным узроўні такое разуменне Логасу як непарыўнага адзінства слова і паняцця, мовы і свядомасці можна стрэць неаднойчы. Найбольш блізкай да гэтай праблемы можа быць названая добра вядомая сярод лінгвістаў і культуролагаў канцэпцыя Сэпіра-Уорфа, згодна якой кожны чалавек бачыць акаляючы яго рэальны свет як бы праз каардынатную сетку сваёй роднай мовы, г.зн. мова з'яўляецца не толькі пасіўным вынікам матэрыялізацыі свядомасці, духу, але і яго актыўным, жывым уцелясненнем, яго, так бы мовіць, звышматэрыяльнай рэалізацыяй. Тое, зрэшты, бачыў і разумеў ужо Гумбальт, калі пісаў, што "розныя мовы — гэта зусім не розныя абазначэнні адной і той жа рэчы, а розныя бачанні яе". Такая актыўна-дзейсная рэалізацыя духу можа быць выразна прадэманстравана на прыкладзе мастацтва, і не толькі ў мастацкай літаратуры, дзе такую ролю адыгрывае як бы само слова, але і ў выяўленчым, напрыклад, мастацтве. Пагэтаму і ў карціне нацыянальна-свядомага беларускага мастака, г.зн. калі ён, так бы мовіць, і думае на беларускай мове, вострае вока даследніка павінна заўважыць пэўныя адрозненні ад карціны на той жа сюжэт мастака расійскамоўнай, напрыклад, культуры.

Такая дзейсна-актыўная роля духу, свядомасці ў мове як знакава-матэрыяльнай сістэме пранізвае сабою не толькі духоўную, але і матэрыяльную культуру народа, надаючы ёй вельмі выразны нацыянальна-адухоўлены характар. Тое, што ўласна духоўная культура, г.зн. рэлігія, філасофія, мараль і навука базуюцца на пэўнай мове, як на сваім непасрэдным носьбіце, — зусім відавочная рэч, гэтаксама як такім жа непасрэдным носьбітам культуры матэрыяльнай з'яўляюцца фізічныя рэчы. Як пісаў Фуко, словы і рэчы складаюць сабой культуру ўвогуле. У мастацкай культуры, якая ўяўляе сабою як бы нейкі сярэдзінны, прамежкавы пласт культуры, што злучае сабою матэрыяльны і духоўны яе полюсы ў адзінае гарманічнае цэлае, вядомае нам як мастацкі вобраз, духоўна-моўны пачатак выступае таксама даволі выразна; у мастацкай літаратуры — непасрэдна, а ў выяўленчым мастацтве — ужо больш апасродкавана. Выразна выяўляецца ён і ў іншых мастацтвах, як, напрыклад, у музыцы, дзе пачатак гэты можна лёгка ўбачыць у фразіроўцы і інтанацыі, што нямецкі філосаф і музыказнаўца К.Штумпф нават паклаў некалі ў аснову сваёй канцэпцыі моўнага паходжання музыкі ўвогуле.

Аднак і ў сферы матэрыяльнай культуры моўна-сэнсавы пачатак можа быць выкрыты з дапамогаю нескладанага разважання. Як ні парадаксальна, такое правільнае ў прынцыпе разважанне мы знаходзім у Маркса, што не вельмі, праўда, стасуецца з ягоным матэрыялізмам, у вядомым параўнанні архітэктара з пчалой. Маркс сцвярджае там, і сцвярджае справядліва, што перш чым нешта зрабіць, чалавек абдумвае гэта нешта, у яго мозгу ўзнікае ідэя гэтага нешта, якая абавязкова атрымлівае славеснае, моўнае афармленне. Створаная такім чынам рэч сапраўды як бы нясе на сабе адбітак слова. Гэта пацвярджаецца тым, што кожнай рэчы матэрыяльнай культуры ў духоўным яе пласце заўсёды адпавядае маркіруючае тую рэч слова, дзякуючы чаму і слова, і рэч атрымліваюць пэўную, строга акрэсленую семантыку, сэнс. Калі б, напрыклад, беларускі селянін нечакана знайшоў у сваім працоўным інвентары аўстралійскі бумеранг альбо пачуў дзесь само гэтае слова, то ні слова, ні рэч для яго былі б незразумелымі, г.зн. не мелі б сваёй семантыкі, сэнсу, паколькі не ўваходзілі б у сістэму яго нацыянальнай культуры.

Каб падсумаваць сказанае і яшчэ раз падкрэсліць ролю мовы ў сістэме культуры, нагадаем толькі вядомае ўжо палажэнне аб тым, што культура ў цэлым уяўляе сабой строга іерархічную знакавую сістэму, дэнататамі якой з'яўляюцца на ўзроўні духоўнай культуры знак-сімвал, на ўзроўні мастацкай культуры — знак-вобраз і на ўзроўні культуры матэрыяльнай — знак-рэч. Уся культура, такім чынам, а не толькі адзін яе духоўны пласт, што непасрэдна рэалізуе сабой нацыянальную свядомасць, ёсць нейкі своеасаблівы тэкст, але не ў плане постмадэрнісцкага моднага зараз яго разумення, а як носьбіт унутранага духоўнага сэнсу, г.зн. **свядомасці** народа — творцы дадзенай культуры. І вывучэнне структуры гэтага агульнакультурнага "тэксту" — задача зусім маладой яшчэ структурнай культуралогіі.

Вернемся, аднак, да духоўнага пласта культуры, які, як ужо было сказана, непасрэдна ўвасабляе сабою свядомасць праз характэрнага свайго носьбіта — мову, і прасочым цяпер, як жа канкрэтна адбываецца там гэтае ўвасабленне нацыянальнай свядомасці, альбо, як яе называлі некалі філосафы, духу народа. Калі свядомасць, як толькі што было паказана, насычае сабою нават прадметы матэрыяльнай культуры, як бы прыўздымаючы іх над "сырой", згодна выразу К.Леві-Строса, бездухоўнай прыродай і надаючы ім пэўную адухоўленасць, сэнс, увасобленых ў іх структуры і функцыянальнасці, то ў сферы духоўнай культуры дух у сваю чаргу не можа пазбавіцца ад "абцяжарваючай яго матэрыі" (Маркс). І гэта зусім нармальна, бо і дух, і матэрыя, згодна дыялектычнай логіцы, утвараюць сабою хоць і супярэчлівае, але адзінства. Матэрыялізм жа і ідэалізм ёсць толькі крайнія полюсы гэтага адзінства. Характэрна, што, напрыклад, рэлігійная філасофія неатамізму гэтых крайнасцяў імкнецца пазбягаць, называючы сябе **філасофіяй рэалізму**. Нават рэлігія, што займае самыя "стратасферныя" вышыні духоўнай культуры і мае ўжо справу з чыстым духам у асобе Бога, і тая не можа абысціся без мовы як "абцяжаранай матэрыяй" формы духу. Апостал Павел, напрыклад, хоць і сцвярджаў, што "словы забіваюць, а жыватворыць дух", але і ён звяртаўся да сваіх вернікаў са словамі і нават пісаў лісты.

Рэлігія, такім чынам, будучы суб'ектыўна найбольш чыстай у духоўным сэнсе формай свядомасці і найбольш, так бы мовіць, блізкім да Неба ўзроўнем духоўнай культуры, як нейкай структурнай іерархіі, тым не менш аказваецца звязанай і з моваю як формай зямнога яе існавання. На ўзроўні рэлігіі чалавек усведамляе сябе часткай Вялікага Цэлага, той Абсалютнай Рэальнасці, якая ў тэалогіі акрэсліваецца як Бог. Як піша вядомы пратэстанцкі тэолаг П.Тыліх, чалавек павінен мець мужнасць быць часткай. Пагэтаму ўзровень агульначалавечых духоўных каштоўнасцяў і абмежаваная толькі гэтым узроўнем антрапацэнтрычная свядомасць з адпавядаючай ёй абстрактна-гуманістычнай культурай не можа задавальняць чалавека. Гуманізм з неабходнасцю павінен быць, згодна з выразам Ж.Марытэна, інтэгральным гуманізмам, г.зн. уключаць у сябе і Бога як сваё Абсалютнае Цэлае. У той жа час гуманізм такі не павінен і траціць свой зямны, чалавечы характар, і адпавядаючая яму свядомасць з неабходнасцю ж набывае "абцяжараны матэрыяй" моўны характар. Пагэтаму ж, магчыма, і Кірыл з Мяфодзіем пераклалі стара-грэцкае Logas славянскім Слово, і ў мове нямецкай Фауст у Гётэ, цытуючы Іаана, гаворыць: "Geschrieben steht: im Anfang war das Wort!".

Наступны ўзровень свядомасці і адпавядаючая ёй іерархічная ступень духоўнай культуры, якая мае сваім аб'ектам Сусвет, ці, як гаварылі старажытныя грэкі, Космас з яго адносна больш канкрэтным, чым у рэлігіі, формамі існавання — гэта філасофія і навука. Менавіта філасофія існуе, па выразу Бертрана Расела, на нічыйнай зямлі паміж рэлігіяй і навукай, запаўняючы сабою плаўную градацыю пераходаў у структурнай іерархіі духоўнай культуры, і пагэтаму мова ў філасофіі як форме народнай свядомасці адыгрывае ўжо куды больш істотную ролю, чымся ў рэлігіі. Нягледзячы на сваю арыентацыю яшчэ пераважна на агульначалавечае, так бы мовіць, сістэму каардынат, філасофія носіць ужо і дастаткова прыкметную нацыянальную характэрнасць, і галоўную ролю ў такой яе характарызацыі якраз і адыгрывае нацыянальная мова, бо чыста агульначалавечай мовы, як вядома, не існуе. Гэта выразна бачыцца, калі параўнаць паміж сабою, напрыклад, нямецкую, англійскую і французскую школы філасофствавання. Характэрная зместавая, сэнсоўная іх спецыфіка ў многім выражаецца і праз спецыфіку моўнанацыянальнай формы, хаця пэўны традыцыяналізм, абстрактнасць і архаізацыя могуць быць заўважаныя і тут, што ў гісторыі еўрапейскай філасофіі знайшло сабе выраз у доўгі час стойкім ужыванні старагрэцкай і лацінскай моваў.

І толькі ў сферы мастацкай культуры і менавіта ў мастацкай літаратуры, тэатры і кіно духоўнае і матэрыяльнае пачынае ўтвараць ужо па-свойму гарманічнае, цэласнае адзінства, якое і ўцелясняецца ў канкрэтна-жывой, сакавіта-вобразнай нацыянальнай літаратурнай мове, дзе вялікую ролю адыгрывае ўжо не толькі ідэя, думка, але само акустычнае гучанне яе матэрыяльнай формы. Так, паэзія, напрыклад, непасрэдна ўжо выкарыстоўвае алітэрацыі, рыфму і рытміку для перадачы заключанай у ёй эстэтычнай інфармацыі, што адпаведна робіць яе цяжка перакладальнай на іншыя мовы, ды і празаічныя пераклады нямала трацяць пры перакладзе ў сваёй эстэтычнай каштоўнасці. Мова на гэтым узроўні становіцца нацыянальнай ужо ў поўным сэнсе гэтага слова. Адпаведна і сэнсавы яе змест, што нясе на сабе і выражае нацыянальную свядомасць, пачынае арыентавацца ўжо не столькі на агульначалавечыя, колькі на канкрэтна народныя, нацыянальныя ідэалы і каштоўнасці. Вось чаму нацыянальны характар культуры відавочней за ўсё і выступае перад намі ў мастацкай літаратуры і тых мастацтвах, што непасрэдна звязаныя з жывым, пачуццёва афарбаваным нацыянальным словам. Пры гэтым чыста духоўны, рацыянальны яго характар пачынае дапаўняцца і пачуццёвай эмацыянальнасцю, звязанай ужо з цялесным быццём чалавека. Вось чаму нацыянальныя рысы культуры відавочней за ўсё выступаюць перад намі ў мастацкай літаратуры і тых мастацтвах, што непасрэдна звязаныя з моваю.

Слова і паняцце, мова і мысленне, свядомасць, такім чынам, звязаныя паміж сабою нерастаргальным адзінствам, гэта, па сутнасці, два бакі аднаго і таго ж, як, напрыклад, цела і душа ў чалавеку. Тут жа нас цікавіць праблема свядомасці, г.зн. паняцця, хоць і звязаная самым цесным чынам з мысленнем, але значна шырэйшага за гэта апошняе. Мысленне — гэта як бы падмурак, аснова свядомасці, тым болей свядомасці духу, народа, нацыі, што тут і маецца, уласна кажучы, на ўвазе. У поўным сэнсе мысленне так адносіцца да нацыянальнай свядомасці, як мова народа — да яго духоўнай культуры ў цэлым. Строга кажучы, мікраўзроўнем тут былі б суадносіны паміж асобным словам і паняццем, праблема, хоць і вядомая ўжо гогалеўскаму Пятрушку, але тым не меней і зараз вострa цікавячая сучасную навуку, тэорыю інфармацыі, у прыватнасці. Згодна гэтай тэорыі значэнне слова, яго семантыка вызначаецца яго структурай як сістэмнай узаемасувяззю паміж складаючымі тое слова марфемамі і фанемамі. Так жа сама вызначаецца і сэнс сказа як пэўнай структурнай сістэмай узаемасувязяў паміж паасобнымі словамі, і сэнс пэўнага абзаца, што складаецца з узаемазвязаных сказаў, і гэтак далей аж да сэнсавага зместу нейкага цэласнага вялікага тэксту. Працягваючы такое разважанне далей, мы ўпаўне лагічна прыходзім да ўсяе нацыянальнае духоўнае культуры як пэўнага тэксту, формай якога выступае мова народа, а зместам — яго нацыянальная свядомасць.

Мы ўжо бачылі, што духоўная культура мае сістэмную іерархічнасць, як своеасаблівую шматступенную шкалу пераходных узроўняў, самым верхнім (па блізасці к духоўнаму полюсу) з якіх з'яўляецца рэлігія, а самым ніжнім — мастацкая літаратура, дзе даволі значную ролю адыгрывае непасрэдна ўжо і акустычны бок мовы, яе матэрыяльная форма. Гэткую ж сістэмную іерархічнасць мае і структура нацыянальнай свядомасці, пачынаючы з разумення канкрэтна-пачуццёвай прадметнасці акаляючага аб'ектыўнага свету і канчаючы паняццем Бога, дзе — дыскурсіўнае мысленне пераходзіць ужо ў акт непасрэднага ўспрымання гэтага паняцця — веру.

Мова аказваецца, такім чынам, звязанай з культурай у цэлым самай арганічнай сувяззю: на ўзроўні матэрыяльнага пласта культуры апасродкавана, на ўзроўні духоўнага пласта — непасрэдна. Пагэтаму і з нацыянальнай свядомасцю і самасвядомасцю яе сувязь мае непарыўны характар. Без нацыянальнай мовы не існуе і нацыянальнай культуры, а значыць, і самога народа як сістэмна арганізаванага сацыяльнага арганізма, які ўсведамляе і разумее не толькі акаляючае асяроддзе, але і самога сябе.

*Меркаванні*

## Дзе гонар бальшыні беларусаў?

На пачатку прывяду прыгожую цытату. У аповесці "У палескай глушы" (вывучаецца ў 10-м класе) Якуб Колас вуснамі свайго героя, перадавога настаўніка Лабановіча кажа: "Кожны народ мае свой гонар. Ангелец перад усім светам горда заяўляе: я — ангелец! Тое самае скажа француз, немец, аўстрыяк, расіец і іншы прадстаўнік другой нацыі. А мы, беларусы, не адважваемся прызнацца ў тым, што мы — беларусы. Бо на галаву беларускага народа, як вядома, многа выліта памыяў, уся істота яго прыніжана, і мова асмеяна, у яго няма імя, няма твару!" Гэта напісана ў 1921-22 гг., а падзеі адносяцца да самага пачатку XX стагоддзя. У канцы яго мы канстатуем, што беларусы прайшлі вельмі складаны шлях у развіцці нацыянальнай свядомасці, але так і не дасягнулі таго ўзроўню, аб якім марылі Лабановіч і Турсевіч.

Безумоўна, былі гады бурнага росту нацыянальнай ідэі, але і гады заняпаду: абвяшчэнне БНР 25 сакавіка 1918 года, утварэнне БССР у 1919 годзе, актыўная беларусізацыя ў 20-х, рэпрэсіі ў 30-х, дзесяцігоддзі русіфікацыі і перамогі дэмакратыі ў 90-х пасля распаду СССР. Сёння ў беларусаў ёсць імя, свая дзяржава, але няма твару. Толькі частка грамадства прызнае сябе беларусамі, гаворыць аб гэтым, хоча вучыць дзетак у роднай мове, але пасля прэзідэнцкага рэферэндуму беларускія класы пераводзяць на расійскую мову навучання, а нашу асмейвалі нават на вяршыні кіруючай улады. Ды і некаторыя настаўнікі ў гарадах не маюць такой нацыянальнай свядомасці, як Лабановіч. Ён з горыччу гаварыў: "Мы адварочваемся ад свайго роднага, не шукаем яго, мы стыдаемся яго!" (Там жа). У наш час так паводзіць сябе значная колькасць прадстаўнікоў інтэлігенцыі, асабліва гараджан, якія лічаць беларушчыну непатрэбнай. Толькі меншая частка грамадзян, асабліва творчыя і навуковыя работнікі ўзняліся да разумення нацыянальных інтарэсаў Беларусі, іх захапіла ідэя адраджэння Бацькаўшчыны. Ёсць такія і ў Ашмянах. А самыя свядомыя і актыўныя змагаюцца не толькі супраць русіфікацыі, яны хочуць, каб беларуская мова гучала па радыё і БТ, як і нашы песні, і зрэдку выходзяць на вуліцы пад бел-чырвона-белымі сцягамі, каб на мітынгах заявіць, што ў нас ёсць свае нацыянальныя каштоўнасці — незалежнасць і самастойнасць, слаўныя гістарычныя даты, знакамітыя дзеячы, старажытная сімволіка, якія трэба абараняць; заявіць, што жыве Беларусь!

Ды ім зноў на галаву, апрача дубінак, валіцца яшчэ не толькі абразлівае, але і небяспечнае: "гэта нацыяналізм, а вы — нацыяналісты!" Бо ў нас па-ранейшаму, як у камуністычныя часы, нацыяналізм лічыцца палітычным злачынствам, хоць у цывілізаваных краінах ён успрымаецца як станоўчая з'ява і якасць асобы і нацыі. У нашыя дні толькі невялікая доля грамадзян, нацыянальна свядомых, патрыятычна настроеных, можа не стыдаючыся і смела заявіць, што яны беларусы і ганарацца гэтым, ды, на жаль, яны ж яшчэ не гаспадары ў сваім доме, на сваёй Бацькаўшчыне. Каб нацыянальная ідэя стала панучай, патрэбна многа папрацаваць на ніве яе адраджэння сярод усіх слаёў насельніцтва і асабліва школьнай моладзі, студэнцтва.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ,**
**ветэран педагагічнай працы.**
г.Ашмяны.

# Веруем

*Да 2000-годдзя хрысціянства*

## Святы Баніфацый, апостал Нямеччыны

Чалавек, які адыграў значную ролю ў нямецкай і еўрапейскай гісторыі, нарадзіўся ў 675 г. у англьскім горадзе Крэдытоне. У пяцігадовым узросце Вінфрыд, ці, як яго клікалі ў Рыме, Баніфацый быў аддадзены на выхаванне ў кляштар. У маладым веку ён прыняў рашэнне стаць манахам, а пасля святарскага высвячэння Вінфрыд стаў настаўнікам і рэктарам школы ў абацтве Нурслінг. У саракагадовым узросце Вінфрыд пакінуў дыдактычна-навуковую працу і вырашыў служыць Хрысту. У 716 г. ён выязджае на місію ў Галандыю, але з-за цяжкасцяў у адносінах з уладамі вярнуўся ў Англію. Назаўсёды ж Баніфацый пакінуў радзіму праз два гады.

У Рыме Папа Рыгор II даў яму дазвол на місійную дзейнасць. Праз Баварыю, дзе ў яго знайшоўся вучань Стурмі, св.Баніфацый дабраўся да Цюрынгіі. Пазней ён заручыўся падтрымкай франконскага каралеўскага дома, накіраваўся навяртаць паганскія плямёны гэсаў. Добрыя вынікі місійнай дзейнасці паспрыялі яго чарговай выправе ў Рым, дзе Баніфацый быў высвечаны на біскупа Папам Рыгорам II.

У размове з паганцамі Баніфацый дазваляў ім выказваць свае погляды, але потым указваў на іх супярэчнасці і хаця і не перабольшваў памылак, але абвяшчаў ім праўду Хрыстовай веры.

Наступны этап місіі Баніфацыя — хрост княжаскай сям'і — зрабіў лягчэйшым евангелізацыю гэтага краю. Пасля 10 гадоў місіянерства ў Гэсіі і Цюрынгіі Баніфацый пачаў там арганізоўваць сталыя царкоўныя інстытуты. У 732 г. Баніфацый становіцца арцыбіскупам і атрымлівае дазвол на стварэнне епархій і высвячэнне новых біскупаў.

У часе трэцяга візіту ў Рыме ён атрымаў яшчэ большыя паўнамоцтвы разам з функцыяй папскага легата.

Дзейнасць Баніфацыя ішла ў двух накірунках: стварэння царкоўнай арганізацыі і рэформы Царквы ў Франконіі. Гэтую рэформу ён адстойваў на трох франконскіх сінодах. На іх была адноўлена дзейнасць метраполій і выдадзены дэкрэты аб царкоўнай маёмасці, а таксама аб жыцці клеру і свецкіх хрысціянаў. Удакладнена, у выніку дзейнасці святога, сямейныя правы і правы цэлібату, было забаронена ў некаторых выпадках карыстацца зброяй і захоўваць паганскія звычаі.

Заснаваныя Баніфацыем кляштары спрыялі ўмацаванню хрысціянства і выхаванню духавенства.

Паплечнік місіянера Стурмі стаў першым абатам і заклаў вядомую традыцыю кляштара як асяродка культуры ў Нямеччыне. Баніфацый заснаваў і некалькі жаночых кляштараў, законніцы якіх дапамагалі яму ў працы.

Не перастаала заставацца прадметам зацікаўленасці вялікага місіянера і Фрызія. У 753 годзе Баніфацый прыняў кіраўніцтва місіі сярод не навернутых яшчэ фрызаў.

У 754 годзе Баніфацый загінуў пакутніцкай смерцю. Яго цела знайшла франконская экспедыцыя. Культ св.Баніфацыя меў перыяды развіцця і застою. У XVII стагоддзі яго пачалі называць апосталам Нямеччыны.

**Падрыхтаваў А.Н.**

## Экуменічная канферэнцыя

З 1 па 3 кастрычніка ў Менску праходзіла Другая экуменічная канферэнцыя пад назвай "Пакліканыя да адной надзеі ў саюзе міру", у рабоце якой узялі ўдзел звыш 100 прадстаўнікоў розных хрысціянскіх Цэркваў з краін былога Савецкага Саюза.

Першая падобная канферэнцыя адбылася больш за два гады таму ў Маскве, і галоўнай яе мэтай была выпрацоўка агульных падыходаў хрысціянаў розных канфесій у вырашэнні надзённых праблемаў грамадства. Менская канферэнцыя павінна была даць адказ, як найбольш паспяхова здзейсніць гэту супольную місію. Яе ўдзельнікаў дабраславілі Папа Рымскі Ян Павел II і Маскоўскі Патрыярх Алексій II.

Здавалася б, нават сама назва канферэнцыі заклікае да паяднання прадстаўнікоў розных канфесій на падставе роўнасці, павагі, любові і павінна была б спрыяць іх шчыраму дыялогу. Але ў гэтым прыйшлося засумнявацца ўжо пад час выступу першага дакладчыка. Так, мітрапаліт Смаленскі і Калінінградскі Кірыл заявіў, што раўнапраўе рэлігійных аб'яднанняў перад законам зусім не прадугледжвае іх раўнапраўя ў народным жыцці і ў грамадскай дзейнасці. Гэта яго сцвярджэнне выклікала досыць бурную рэакцыю ў некаторых прадстаўнікоў іншых Цэркваў. Епіскап Інакенцій спрабаваў апраўдаць вядомую імперыялістычную дактрыну "Масква — Трэці Рым", якая, на думку таго ж мітрапаліта Кірыла, была канцэпцыяй не знешнепалітычнай, а перш за ўсё рэлігійнай, згодна якой Масква адчула пакліканне стаць "духоўнай сталіцай свету". Далей уладыка Інакенцій разважаў пра тое, як палітыкі спрабуюць выкарыстаць Царкву ў сваіх мэтах і як гэтай з'яве супрацьстаяць. "Ні ў якім выпадку Царква не павінна падтрымліваць нейкую палітычную сілу, каб па палітычнай прыкмеце не расхалоць царкоўнае цела",— адзначыў дакладчык. Роля Царквы ў палітыцы, працягваў ён далей, павінна быць аб'ядноўчай і прымірэнчай, што пацвердзіў Сабор Рускай Праваслаўнай Царквы 1994 г.

Аднак, колькі б ні гаварылі дакладчыкі пра шкоднасць умяшання Царквы ў палітыку, самі ўдзельнікі пазбегнуць яе, на жаль, не змаглі. Спачатку яны бурнымі воплескамі сустрэлі прамову памочніка Лукашэнкі палкоўніка Посахава, які апавядаў пра поўнае паразуменне паміж выканаўчай уладай і кіраўніцтвам усіх канфесій на Беларусі, а таксама пра дапамогу дзяржавы ў справе перадачы храмаў і іншай маёмасці вернікам. Царкоўным іерархам, напэўна, лепш, чым каму, вядома, чым на самой справе абарочваецца гэтая дапамога — за перыяд кіравання краінай Аляксандрам Лукашэнкам ніводны храм не быў перададзены законным гаспадарам. І ўжо непрыкрытым здзекам прагучалі словы Посахава пра тое, што дзяржаўныя органы павінны актыўна садзейнічаць фармаванню ў грамадстве атмасферы даверу і талерантнасці. Якая таляранцыя пануе зараз на Беларусі, распавядаць чытачам, думаю, няма патрэбы. Не меншыя воплескі сарваў віншавальны ліст ад дэлегатаў канферэнцыі на імя Прэзідэнта Лукашэнкі, зачытаны старшынём Саюза Евангельскіх хрысціян баптыстаў Расіі Канавальчыкам. У ім дэлегаты выказваюць шчырую падзяку Прэзідэнту за дазвол на правядзенне канферэнцыі і жадаюць усялякіх поспехаў у працы на карысць беларускага народа. Ведаючы норавы прэзідэнцкіх палкоўнікаў, нельга выключаць таго, што гэты зварот будзе выкарыстаны ў якасці аргумента ў супрацьстаянні з парламентам.

На канферэнцыі ўвогуле не закраналіся беларускія праблемы. Шмат увагі ўдзялялася становішчу праваслаўных у Чачні і Эстоніі, і на пытанне журналістаў: ці магла б Царква выканаць міратворчую місію ў беларускім палітычным супрацьстаянні, мітрапаліт Філарэт заявіў, што не варта Царкве выяўляць палітычную пазіцыю, хаця і адзначыў добры прыклад "круглага стала".

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

## Ян Гус адкрыты нанова

Вобраз чэшскага святара Яна Гуса, які ў перыяд вялікага крызісу папства ў пачатку XV ст. прыехаў у Канстанц, каб абараніць перад саборам свае погляды на рэформу Царквы, даўно звязаны з пачуццём болю ад падзелу. Багемія, якую імператар Караль IV зрабіў культурным і палітычным цэнтрам імперыі, набыла рэпутацыю "краіны ерэтыкаў". На працягу стагоддзяў нават самым верным чэшскім каталікам па ўсёй Еўропе, а перш за ўсё ў Рыме, прыходзілася цярпець падазрэнні ў тым, што іх каталіцкасць беззаганная. Быў звычай казаць: "Патрасіце багемскага святара і з яго выскача гусіт".

Пазней Рэфармацыя зрабіла Гуса сваім героем. Ён стаў сымбалем антыкаталіцкай барацьбы пратэстантаў, якім Гус нагадваў пра тое, што ўвесь іх народ не мае добрай рэпутацыі ў каталіцкім свеце. Памяць пра Яна Гуса з часам асацыявалася з вялікай колькасцю забабонаў. Некаторыя змены ў гэтых адносінах намеціліся ў Каталіцкай Царкве пад час Другога Ватыканскага сабора.

Перад падзеннем камуністычнага рэжыму ў Празе сустрэлася група каталіцкіх тэолагаў, філосафаў і гісторыкаў, каб падрыхтаваць глебу для новай пазіцыі Каталіцкай Царквы ў справе Яна Гуса. Каталіцкая Царква, якая з'яўляецца ў Чэхіі дамінуючай разам з іншымі канфесіямі, пачала адыгрываць значную ролю ў духоўным супраціве камунізму. Чэшскія хрысціяне разумелі, што аздараўленне грамадства не скончыцца вызваленнем ад камунізму — гэта значна даўжэйшы шлях.

Для таго, каб Царква магла аказваць дзейную і выклікаючую давер дапамогу, неабходнае прымірэнне між хрысціянамі розных канфесій. Таму ўзгаданая група каталіцкай інтэлігенцыі прапанавала адрозніваць справу жыцця Гуса, яго асобу ад міфа вакол гэтага імя.

Як высвятлілася, менавіта гэта "другое" жыццё Яна Гуса ў вобразе легенды і нацыянальнага сымбаля — і было прычынай напружанасці. Як і іншыя вялікія гістарычныя асобы, Ян Гус з часам стаў вобразам, у які розныя групоўкі і плыні ўкладалі не толькі ўласныя ідэалы, але і ўяўленні аб вобразе ворага. Настаў час пераадолення гістарычных шаблонаў. Для чэшскага каталіцызму гэта азначае, што Ян Гус больш не ўспрымаецца як асоба, якая стаіць па-за каталіцкай традыцыяй. Ян Гус належыць да ліку вялікіх людзей чэшскага народа і з'яўляецца ключом да разумення чэшскай духоўнасці. Але каталікі не маюць намеру забраць Яна Гуса ў пратэстантаў, бо для іх ён важны сымбаль. Хрысціяне Чэхіі маюць надзею, што вобраз Яна Гуса стане аб'ядноўчым фактарам у міжканфесійным экуменічным дыялогу.

**Д-р Томаш ХАЛІК.**
**Пераклаў са скарачэннямі А.Н.**

## Новы святы: за і супраць

П'ер Тусо нарадзіўся ў французскай калоніі Гаіці каля двух стагоддзяў таму. Пасля таго, як Францыя скасавала рабства, ён вырашыў застацца са сваімі белымі гаспадарамі і пераехаў з імі ў Амерыку, у Н'ю-Ёрк. Нявольнік, які адрокся ад свабоды, быў аддаены сваім гаспадарам да такой ступені, што калі тыя праз нейкі час страцілі ўвесь маёнтак, Тусо патаемна зарабляў ім на жыццё ў адной з лепшых цырульняў горада. Пасля таго, як яны памерлі, Тусо скарыстаў сабраныя ім за доўгае жыццё не малыя грошы на тое, каб заснаваць прытулак для сірот.

Цяпер каталіцкія іерархі Н'ю-Ёрка дамагаюцца яго кананізацыі. Ужо амаль дваццаць гадоў, як арцыбіскуп Н'ю-Ёрка кардынал О'Конар пад час спецыяльнай імшы, якая адбываецца раз на год, славіць П'ера Тусо. Монсеньёр Роберт О'Конар служыць у святыні, якая знаходзіцца ў фінансавым сэрцы горада. Два стагоддзі таму ў гэты касцёл, каб маліцца і чыніць свае добрыя справы, хадзіў сам П'ер Тусо.

Ён апекаваўся не толькі дзецьмі. Калі ў Н'ю-Ёрку лютавалі эпідэміі халеры і чумы, П'ер Тусо, рызыкуючы жыццём, даглядаў хворых. Таму кардынал упэўнены: з цягам часу П'ер Тусо будзе далучаны да ліку святых і на будынку касцёла ўсталююць мемарыяльную дошку з ягоным імем.

Але сёння ў асяроддзі каталікоў ЗША існуюць вельмі розныя погляды на асобу П'ера Тусо і магчымасць яго кананізацыі. Чаму? Адны кажуць, што бязгрэшнае жыццё П'ера Тусо дазваляе далучыць яго да ліку святых, і актыўна гэтага патрабуюць. Але ёсць і святары, і парафіяне, якія прытрымліваюцца іншай думкі: раб, які свядома абраў рабства, не варты чына святога. Мноства прадстаўнікоў афра-амерыканскай грамады ЗША выступае супраць таго, каб П'ер Тусо быў абвешчаны першым у краіне святым аднаго з імі паходжання. Ён таго не заслугоўвае, сцвярджаюць яны.

Айцец Фрэдэрык Лукас — адзін з найбольш актыўных працiўнікаў ідэі кананізацыі Тусо. "Асоба Тусо мяне папросту не цікавіць. Бо замест свабоды ён абраў жыццё ў няволі ў белых гаспадароў. Ён быў пасіўным, ён не змагаўся за правы свайго народа. Як можна яго імя ставіць побач з імёнамі Жанны Д'Арк і святога Станіслава?" — з абурэннем кажа чарнаскуры каталіцкі святар з Н'ю-Ёрка.

Аднак апошняе слова ў гэтай спрэчцы застаецца за Ватыканам. Ці будзе прызнаны святым іхні зямляк, амерыканцы даведаюцца ў гэтым годзе.

**Падрыхтаваў У.П.**

